ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год. XXXIV, № 326 Нью Ёрк — люты — 1985 — February — New York Vol. XXXIV, № 326

## ПРЭЗЫДЭНТ ЗША РЭЙГАН ПРА ЯЛТУ

Ялцінская (або Крымская) канфэрэнцыя, якая адбылася сорак гадоў таму, 2-11 лютага 1945 г., становіць важную вяху ў гісторыі Другое сусьветнае вайны й паваеннае Эўропы. У Ялце „Тры Вялікія" — Рузвэльт, Чэрчыль і Сталін — дамовіліся аб падзеле Нямеччыны, паваеннай Эўропе ды ўтварэньні Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Палітычная карта сучаснае Эўропы была вызначаная ў Ялце. У ялцінскім пагадненьні хаваліся й зярняты паваеннага напружаньня паміж Захадам ды Ўсходам, а таксама была пакладзеная аснова для дамінацыі Ўсходняе Эўропы Савецкім Саюзам.

Сараковыя ўгодкі Ялты Прэзыдэнт Злучаных Штатаў Рэйган адзначыў кароткай заявай, у якой нагадаў, што сорак гадоў таму ЗША, Вялікабрытанія й СССР дамовіліся ў Ялце адбудаваць дэмакратыю на эўрапейскім кантынэнце (у прынятай Рузвэльтам, Чэрчылям і Сталінам „Дэклярацыі аб вызваленай Эўропе" казалася: „Устанаўленьне парадку ў Эўропе і адбудова нацыянальных эканомікаў мусіць быць дасягнута ў выніку працэсу, які дазволіць вызваленым народам стварыць дэмакратычныя інстытуцыі паводля свайго жаданьня. Гэта прынцып Атлянтычнае Хартыі — права ўсіх народаў свабодна выбіраць сабе форму ўраду, пад якім яны хочуць жыць"). Але ад таго часу, — сказаў Рэйган, — Ялта набыла двайстага значаньня. Ялта нагадвае нам пра супрацоўніцтва Савецкага Саюзу й свабодных народаў у вялікай супольнай справе. Але Ялта нагадвае таксама аб прычынах, чаму гэтае супрацоўніцтва не магло трываць далей — гэта недатрыманыя савецкія абяцаньні, неправедзеныя свабодныя выбары, гэта дзьве палавіны Эўропы, што застаюцца падзеленымі.

На пытаньне „Чаму Ялта важная сёньня?" Прэзыдэнт Рэйган адказаў гэтак: „Не таму, што мы на Захадзе хочам аднаўляць старыя спрэчкі аб граніцах. Мы далёкія ад гэтага. Прычына, чаму Ялта застаецца важнай, ляжыць у тым, што справа свабоды ў Эўропе — няскончаная справа. Тыя, хто ўздымае пытаньне аб пераглядзе граніцаў або тэрыторыяў, — зазначыў Прэзыдэнт Рэйган, — спадзяюцца, што запраўднае пытаньне — пытаньне дэмакратыі й незалежнасьці — неяк будзе адсунутае набок. Але гэтага ня станецца.

„Ёсьць адна мяжа, якую Ялта сымбалізуе і якая ніколі ня можа быць узаконеная, а гэта — лінія падзелу паміж свабодай і рэпрэсіяй. Я не вагаюся заявіць, — сказаў Рэйган, — што мы хочам скасаваць гэтую мяжу. У гэтым намаганьні мы ня шукаем ваеннае перавагі для сябе або для заходніх саюзьнікаў. Мы не адмаўляем ніякай дзяржаве законнага зацікаўленьня ў сваёй бясьпецы. Але калі адна дзяржава мацуе сваю бясьпеку, забіраючы нацыянальную незалежнасьць і нацыянальныя традыцыі ад іншае дзяржавы, дык гэта незаконна. З гледзішча на далейшую пэрспэктыву гэта навет і не бясьпека.

„Шмат гадоў па Ялце вось што нам ясна сёньня, — падсумаваў сваё выказваньне Прэзыдэнт Злучаных Штатаў: — найлепшы спосаб гарантаваць бясьпеку Эўропе гэта зрабіць Эўропу больш свабоднай. Пасьля 40 гадоў перад намі застаецца мэта аднавіць у Эўропе сям'ю свабодных дзяржаваў. Гэтай справе мы й прысьвячаем сябе сёньня".

## АБ РОЎНАСЬЦІ САВЕЦКІХ ГРАМАДЗЯНАЎ ПЕРАД ЗАКОНАМ

Калі дзяржава кажа пра сябе, што яна дэмакратычная, дык роўнасьць грамадзянаў перад законам павінна быць у аснове практычнае дзейнасьці ўладаў ува ўсіх галінах грамадзкага жыцьця. Апрача таго, у дэмакратычнай дзяржаве павінен быць незалежны ад урадавых органаў суд, куды грамадзянін можа зьвяртацца ў выпадках якое-небудзь дыскрымінацыі яго ўладамі.

Савецкае заканадаўства шырака абвяшчае прынцып роўнасьці ўсіх перад законам. Артыкул 32 Канстытуцыі БССР устанаўляе: „Грамадзяне Беларусі зьяўляюцца роўнымі перад законам незалежна ад паходжаньня, сацыяльнага і маемаснага стану, расавай і нацыянальнай прыналежнасьці, полу, адукацыі, мовы, адносін да рэлігіі, роду і характару заняткаў, месца пражываньня ды іншых акалічнасьцяў". Гэтак кажа канстытуцыя.

Але калі прасачыць савецкую гісторыю навет па афіцыйных адкрытых крыніцах ,дык можна пераканацца, што канстытуцыйнае палажэньне аб роўнасьці ўсіх перад законам не ўжыцьцяўлялася ані воднага дня існаваньня савецкай дзяржавы. Увесь час паасобныя групы жыхарства ставіліся ў прывілеяванае становішча перад законам, а іншыя групы выяўна дыскрымінаваліся. Гэта адбываецца й цяпер. Па Савецкім Саюзе дзеіць цэлы шэраг сакрэтных і паўсакрэтных інструкцыяў ды палажэньняў, якія ставяць людзей у выяўную няроўнасьць перад законам. Прывядзем канкрэтныя прыклады.

Паводля закону ўсе савецкія грамадзяне маюць роўнае права на працу. Але ёсьць мноства пасадаў, якія на прадпрыёмствах, у арганізацыях і ўстановах могуць займаць толькі члены камуністычнае партыі. І на гэта ёсьць адпаведная сакрэтная інструкцыя — інструкцыя аб гэтак званай партыйнай намэнклятуры.

Але члены камуністычнае партыі, як ведама, складаюць шмат менш за 1% жыхарства (кампартыя Савецкага Саюзу налічвае каля 17 міліёнаў). Людзі-ж звыкліся ўжо з тым, што чырвоная кніжка члена партыі дае ейнаму ўладальніку перавагі ў праве на працу.

У некаторых выпадках не сакрэтная інструкцыя, а афіцыйны савецкі закон, і навет канстытуцыя ставяць грамадзянаў у няроўнае праўнае становішча. Гэтак, прыкладам, паводля артыкулу 50 Канстытуцыі БССР грамадзянам дазволена весьці атэістычную прапаганду, а грамадзянам веручым весьці рэлігійную прапаганду забаронена. А ці лёгка веручаму чалавеку атрымаць работу у якой-небудзь дзяржаўнай ці гаспадарчай установе, асабліва ў галіне культуры й мастацтва? А ці лёгка веручаму маладому чалавеку трапіць у вышэйшую навучальную ўстанову?

Мы, ня ведаем дакладна, колькі веручых людзей цяпер на Беларусі або па цэлым Саюзе — такая статыстыка трымаецца ў сакрэце, — але напэўна веручых куды больш як членаў камуністычнае партыі. І ўсе веручыя выяўна дыскрымінуюцца на аснове афіцыйнага закону.

Вось яшчэ паказальны прыклад няроўнасьці савецкіх людзей перад законам. Паводля артыкулу 214 кодэксу законаў аб працы Беларускай ССР рабочыя й службоўцы, звольненыя адміністрацыяй з працы, калі яны лічаць сваё звальненьне няправільным, маюць права зьвяртацца ў народныя суды з просьбай аб аднаўленьні на працу. Але далёка ня ўсе рабочыя й службоўцы могуць карыстацца судовай абаронай сваіх правоў. Артыкул 224 таго-ж кодэксу законаў аб працы кажа аб тым, што рабочыя й службоўцы, якія займаюць пасады, названыя ў асобным пераліку, такога права ня маюць. Гэткія асобы ў выпадку іхнага звальненьня могуць зьвяртацца з жальбамі толькі да вышэйшага начальства, а ня ў суд.

Калі ўважліва перагледзець гэты асобны пералік, дык можна дзівуацца — якое шырокае кола асобаў пазбаўленае права на судовую абарону пры парушэньні іхнага права на працу. Сярод іх: загадчыкі магазынаў, кладаўшчыкі грамадзкага харчаваньня, бухгальтары і іхныя намесьнікі, загадчыкі розных аддзелаў і іхныя намесьнікі, лясьнічыя, майстры на вытворчасьці, прафсаюзныя працаўнікі, артысты, перакладчыкі ды розныя інспэктары, і пераліку гэтаму канца няма.

Адразу-ж паўстае пытаньне: а чаму-ж улады пазбавілі такое мноства людзей правоў на судовую абарону пры звальненьні іх з працы? Які ў гэтым сэнс? А сэнс для ўладаў у гэтым ёсьць, і вельмі выразны.

Пазбавіўшы кіраўнікоў вытворчасьці ўсіх рангаў ад нізу да верху — ад майстра да загадчыка — права зварачацца ў суд пры звальненьні з працы, улады ставяць гэтых асобаў у поўную залежнасьць ад вышэйшага адміністрацыйнага ды партыйнага кіраўніцтва, робяць іх паслухмянымі праваднікамі свае палітыкі.

Кожнаму зразумела, што жаліцца на начальства вышэйшаму начальніку пры звальненьні з працы — справа бадай што бескарысная. Ня маючы ніякай абароны сваіх працсўных правоў, людзі гэтыя стараюцца не ўваходзіць зь кіраўніцтвам у ніякія канфлікты ды паслухмяна выконваюць ягоную волю.

**А. Насовіч**

### 40-Я ЎГОДКІ ЯЛТЫ

У Лёндане 4-га лютага сёлета былі адзначаныя 40-я ўгодкі Ялцінскай канфэрэнцыі, на якой „Тры Вялікія"—Рузвэльт, Чэрчыль і Сталін падпісалі „Дэклярацыю аб вызваленай Эўропе". Паколькі Сталін не датрымаў дадзеных у Ялце абяцаньняў аб увядзеньні дэмакратыі ў краёх Усходняе Эўропы, Ялцінская канфэрэнцыя набыла ганебную славу; шмат хто вінаваціў заходніх саюзьнікаў, што яны „прадалі" Сталіну Ўсходнюю Эўропу.

Сараковыя ўгодкі Ялты былі адзначаныя ў Лёндане ў саборы Бромтан Ораторы багаслужбай, арганізаванай Эўрапейскай Групай Сувязі, у якую ўваходзяць прадстаўнікі ад 15-х нацыянальнасьцяў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, у тым ліку й ад Беларусаў. У багаслужбе ўзялі ўдзел нацыянальныя групы із сваймі сьцягамі, сярод якіх быў таксама й сьцяг Афганістану.

Вядучую ролю ў багаслужые выконваў а. Ян Лянг (Чэх), удзел узялі таксама Архібіскуп Бруно Нэйм, а таксама папскі нунцый у Вялікабрытаніі ды іншыя высокія саноўнікі.

З сабору ўдзельнікі багаслужбы прайшлі працэсіяй на пляц праз шырокую вуліцу да помніка ахвярам Ялты, паняволеным народам Усходняе Эўропы. Там адбыўся мітынг, на якім перад паўтаратысячнай аўдыторыяй выступілі з прамовамі: сп. Р. Марцэтыч, старшыня Эўрапейскае Групы Сувязі, члены Брытанскага Парлямэнту Ўінстан Чэрчыль, Алекс Карлайль ды іншыя.

Прамоўцы заклікалі вольны сьвет быць насьцярожаным у дачыненьнях з Савецкім Саюзам, які пагвалтаваў Ялцінскую ўмову, заняволіўшы каля 200 мільёнаў жыхароў Усходняе й Цэнтральнае Эўропы.

**А. Зданковіч**

## ЗЬ НЕПУБЛІКАВАНАЕ СПАДЧЫНЫ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

### ЗЯМЛЯ

*Дарагая матуля зямля,*
*Бог на тое мне даў дзьве далоні,*
*каб я гладзіць ласкава магла*
*Твой дыван машастова-зялёны.*

*Знай, згараная ськіба мая:*
*ціхім шчасьцем пранятая маці*
*можа гэдак аддана, як я,*
*гладзіць толькі галоўку дзіцяці.*

*Мне жыцьця для Цябе не шкада,*
*паэтычным мы зроднены духам.*
*Бог і сьлёзы на тое мне даў,*
*каб Цябе паліваць ў час засухі.*

*І на тое мо сэрца ў грудзёх,*
*каб сагрэць Цябе словам і чынам,*
*і на тое натхненьне даў Бог,*
*каб Цябе апяваць бязупынна.*

*На выгнаньні, 1945-1947 гг.*

### ЦУД

*Весяліўся, сьмяяўся агонь,*
*чырванеў як зара-заранiца,*
*і згарэў на ім белы мой конь,*
*і згарэў на ім мужны мой рыцар.*

*Як з паганскіх, курганных часоў*
*йшлі удовы на вогнішча сьмерці,*
*я, найболей няшчасная з ўдоў,*
*сваіму рыцару кінула сэрца.*

*Узьняўся ў неба ахвярны мой дым*
*рос із сэрца майго агнявіцай*
*і празь сьлёзы я бачыла ў ім,*
*як ажыў зноў конь белы і рыцар.*

*І сярод найцяжэйшых пакут*
*я паверыла сэрцам гаротным,*
*што з ахвяраў нам зродзіцца цуд,*
*што наш Рыцар і Край несьмяротны.*

*На выгнаньні, 1945-1947 гг.*

## ЯШЧЭ ПРА СУСТРЭЧУ БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ



**Частка ўдзельнікаў 6-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ў дзень пікніку ў Банайтэнскім парку. 8. І. 1985 г.**

Пра 6-ю Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі зьмешчаная ў № 325 „Беларуса" вялікая й цікавая справаздача нашага сталага карэспандэнта Янкі Яра. У міжчасе мы дасталі тэкст даволі дэтальнага рэпартажа пра Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі, напісанага сп. Міхасём Лужынскім і перададзенага ў беларускай радыяпраграме ў Сыднэі. Каб не паўтараць таго, пра што чытач „Беларуса" даведаўся ўжо з карэспандэнцыі Янкі Яра, ніжэй зьмяшчаем толькі **дадатковую** інафрмацыю й выказваньні пра Сустрэчу з сыднэйскае радыяперадачы. Словы ў двукосьсі цытуюцца з радыяпраграмы.

***

У Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі (якая адбылася ў Адэляйдзе 5-9 студзеня сёлета) узялі ўдзел нашыя суродзічы з Сыднэю, Вулонга, Ньюкастэля, Камбэры, Мэльбурну й нават з далёкага Пэрту з Заходняй Аўстраліі.

Адэляйдаўцы, гаспадары Сустрэчы, „запраўды адчынілі дзьверы і паказалі сваю гасьціннасьць, бо прыдбалі кватэры для 90 асобаў".

Рэфэрат на тэму „ ,Літва', ,Беларусь', як назовы дзяржавы беларускага народу", прачытаны сп. М. Лужынскім, быў „падвойнай рэдакцыі сп. П. Трысмакова і сп. Я. Ролсана". „Рэфэрат выклікаў шмат зацікаўленьня, бо было некалькі просьбаў атрымаць копію яго".

Сп-чна Соня Якша была памочніцаю Дзеда Мароза ў часе раздаваньня падарункаў.

Прадстаўнік міністра этнічных справаў на Паўдзённую Аўстралію і прадстаўнік ад штатавае Этнічнае Рады ды іншыя госьці на Сустрэчы зазначалі ў сваіх выступленьнях, што яны „першы раз на такой беларускай імпрэзе".

Танец „Лянок", выкананы групай малодшых дзяўчат з Адэляйды, адзначаўся „вельмі простай, але вельмі вымоўнай харэаграфіяй; фігуры танцу ясна паказвалі, як сеюць, полюць, рвуць, сушаць, труць, чэшуць, прадуць лён на Беларусі ды як зь яго выходзіць ,бялюсенькі кужалёк' " (як кажа песьня).

Калі на сцэну выйшаў Віктар Зелянеўскі, „заля адразу спаткала яго воплескамі, бо слухачы ведалі, што шчыра пасьмяюцца. Віктар і гэтым разам не падвёў: жартаўлівы верш ,Жаніцьба' прымусіў усіх трымацца за жываты".

Праграму канцэрту „ўмела ў дзьвюх мовах вёў сп. К. Станкевіч".

Харэаграфію „Полькі Янкі" ў выкананьні групы адэляйдзкіх дзяўчат апрацавала сп-чна Наташа Якша.

Аркестра ў часе забавы была „дасканальная", „пераплятала танцавальную музыку беларускімі мэлёдыямі".

На час Сустрэчы „шчырыя й дабразычлівыя суродзічы з Адэляйды, відаць, замовілі адмысловую пагоду, бо за ўвесь прабеглы час тэмпэратура паветра не перавышала 26 градусаў Цэльсія, што стварала надзвычайна прыемныя ўмовы".

Да Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі належаць 13 арганізацыяў з чатырох штатаў, і прадстаўнікі ад усіх іх узялі ўдзел у паседжаньні ў апошні дзень Сустрэчы. Із справаздачаў вынікала, што „ўсе арганізацыі працавалі ў рамках сваіх статутаў, каб ажыцьцявіць свае мэты".

У рэвізійную камісію ФРБАА былі выбраныя: сп. К. Станкевіч, сп. М. Бурнос і сп. Я. Гавенчык.

На паседжаньні „на прапанову старшыні зьезду было пастаноўлена выслаць спачувальны ліст сп. Міхасю Зую, сябру й заснавальніку Фэдэдальнай Рады, які пацярпеў цяжкі выпадак і знаходзіцца ў шпіталі".

Наступную сустрэчу Беларусаў Аўстраліі, за два ады, пастанавілі правесьці ў Мэльбурне.

УРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 67-х УГОДКАЎ

**АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ**

**АКТАМ 25 САКАВІКА 1918 ГОДУ**

*адбудзецца ў*

*НЯДЗЕЛЮ, 31 САКАВІКА 1985 г. (пачатак а 2-ой гадз. п./п.)*

*у залі „Стайвэсант Рум" гатэлю Галлорэн Гаўз*
*525 Лэксынгтан Авэню ў Мангэтэне, Нью Ёрк*
***Даезд падземкай: лінія ІРТ (АйАрТы) да 51-ай вул.***

**ЗРАБЕЦЕ ПАДАРУНАК КАМУ-НЕБУДЗЬ — ПАДПІШЭЦЕСЯ ДЛЯ ЯГО (ЯЕ) НА ГАЗЭТУ „БЕЛАРУС".**

# НА ВАСЬМІДЗЯСЯТЫЯ ЎГОДКІ ЖЫЦЦЯ

Дзень 20 студзеня 1985 г. быў днём абыходу васьмідзясятых угодкаў ад дня нараджэньня. Семдзесят пяць гадоў з гэтага пэрыяду прыпадаюць на сьведамае жыцьцё—жыцьцё, поўнае зацішша і хваляваньняў, радасьці і сьлёз, упадку і ўздыму, змаганьня і працы.

Перада мною выступаюць дзіцячыя гады. Падарожжы. Людзі, і людзі... Думкі, і думкі, выражаныя вуснамі, пісаныя, друкаваныя; ідэі, цьверджаньні, як выражэньне перакананьня і веды, запярэчаньне цьверджаньня, як выражэньне сумлеву, гэтага штурханца, неабходнага для кажнага поступу і кажнае новае ідэі. Перад мною разгортваецца сьвет гэльленізму і новае думкі з новымі ідэямі і пераацэнка ўсіх ведамых мне вартасьцяў з галіны духа. Увесь камплекс. Быцьцё.

Мне выпала нарадзіцца ў Слуцку на Школішчы.. Школішчам называўся адзін з чатырох кварталаў места ў паўночна-ўсходняй частцы Слуцка. Капыльская вуліца што бегла з поўначы на поўдзень да Раманаўскае вуліцы (шаша), гэта заходняя мяжа Школішча; паўдзённая мяжа — сама шаша; усходняя мяжа — гарадзкі выган, на ўсход ад якога недалёка знаходзілася паравая мельніца, якая ў маім часе згарэла; паўночная мяжа з гагібаю на ўсход упіралася пераважна ў гэбрэйскія агароды.

Назоў Школішча выводзіўся ад сынагогі — магчыма, найбольшага будынку ў месьце, папулярна званае Школаю. Школа знаходзілася у цэнтры Школішча і ўключала ў сабе, апрача сьвятыні, розныя памешканьні і склады разам з малымі крамкамі, у якіх мы, дзеці, часта куплялі капеечнае цаны тавары і кручкі на рыбу. Галоўным элемэнтам у камплексе школьным быў кагал — гэбрэйскае кіраўніцтва і адміністрацыя з даглядам над асьветаю і падтрымліваньнем традыцыяў; кагал быў таксама цэнтрам інфармацыі для гэбрэйскага насельніцтва; тут, праўдападобна, знаходзілася і судаўніцтва. На нашай Бычковай вуліцы было шэсьць беларускіх хатаў і пяць гэбрэйскіх.

Наша сям'я ня была малою. Па сьмерці бацькі, якога я ня памятаю, маці, Юстына Пятроўская, была поўным аўтарытэтам у доме. Найстарэйшы брат Апанас быў усім нам і братам, і бацькам, бо ён быў тым, які працаваў сьлёсарам у Бязручкіна і пераважна працаю сваёю карміў сям'ю. За ім у чарговасьці веку ішлі: Клемка (Клямэнты), Косьцік, які па сьмерці Клемкі, у 1912 годзе, выэміграваў у Амэрыку. Пасьля іх ішлі: Наташа, Таня, Сьцёпа і Янка, і Саша, які пару гадоў перад Першаю сусьветнаю вайною памёр на шкарлятыну. Вельмі характэрна: часамі мяне называлі ў сям'і Ваням, але мой дзед па лініі маці, Андрэй, заўсёды і ніколі інакш не называў як толькі Янкам. З гэтае прычыны і дома пераважна ўсе называлі мяне Яначкам, Янкам.

Сьвет, у якім я жыў, быў вялікім сьветам, прынамся гэтакім ён мне выдаваўся тады. На поўнач ад Бычковае вуліцы распасьціралася за агародамі роўнае поле з разьлеглым абшарам хлебных ураджаяў суседніх вёсак, зь сенажацямі, а за гарадзкім выганам знаходзіліся могілкі — месца частых наведваньняў — на якіх былі пахаваны нашыя блізкія і далёкія сваякі, і месцы магілкаў былі нам ведамыя; на захадзе стаяў Сьвятатроіцкі манастыр на канцы Манастырскае вуліцы. Часамі хадзілі мы, малыя дзеці, па грыбы ў Граду — бярозавы прыгожы лес, або лавіць ракаў недзе далей на раку Случ, але дзе дакладна гэтыя мясьціны былі, я ня ведаў тады і ня ведаю сягоньня.

Я мушу падчыркнуць тут тую згоднасьць у нашай сям'і, якую я назіраў зь першых дзён сваіх і да апошняга дня нашага супольнага і расьцярушанага пазьней жыцьця. Ніколі ня было сваркі ў доме, ніхто нікога ня крыўдзіў, ня хлусіў і не ашукваў. У гэтым гарманійным жыцьці можа хавацца адмоўны пачатак. Калі чалавек, гэтак узгадаваны, выходзіць у шырокі сьвет, ён ня мае даволі вострага пачуцьця быць асьцярожным, ён не здагадваецца хутка, што могуць быць людзі, якія будуць старацца падставіць яму нагу, ашукаць яго, і часта скрыўдзіць. Ён часта адчыняе гасьцінныя дзьверы для чалавека, не падазраючы зусім, што ён упускае ў свой дом правакатара, які прыходзіць з тою адзінаю мэтаю, каб пазьней, з накінутае цяперака гутаркі, рабіць паклёп. Або наадварот, ён сам, будучы запрошаным, пераступае парог дому, у якім ужо на яго расстаўленыя сеці найгоршых інтэнцыяў і злое волі. Гэткім я быў, калі пазьней, кіраваны найлепшымі пачуцьцямі, выходзіў у новы і чужы мне сьвет.

***

Калі сягоньня, азіраючыся на пройдзены цярністы ў гэтым дачыненьні шлях, я магу адчуваць пачуцьцё дазнанае крыўды, тады рэванжуецца яно этычным аспэктам, зь якім Плятон у дыялёгу „Горгіяс" зьвяртаецца да нас: „Найгоршае на сьвеце зло — гэта тварыць несправядлівасьць, ...і несправядлівыя няшчаснымі зьяўляюцца". На гэтым месцы і ў гэтым часе магу спакойна сказаць: нікога я ня скрыўдзіў або, што найменш, ня меў намеру каго-небудзь скрыўдзіць.

Нацыянальнае прабуджэньне прыходзіла паступова.

Адразу-ж на пачатку Першае сусьветнае вайны наш дом (чатыры прасторныя пакоі, вялікая кухня, калідор і ганак) гарадзкою ўправаю быў вызначаны, як свайго роду гатэль для афіцэраў расейскае арміі, пасьля таго, як недалёка на захадзе ад Слуцка ўстабілізаваўся фронт. Афіцэры рознага рангу (без дзяншчыкоў) прыходзілі і адыходзілі. Для малога хлапца быў гэта праўдзівы парад дагэтуль нябачанага войска, выстраенага і багата апранутага, рознага веку, ад маладзенькіх прапаршчыккаў пачынаючы і да старых палкоўнікаў як пяхоты, гэтак



Ян Пятроўскі. Партрэт работы П. Сяргіевіча (1940 г.)

і конных частак. З выбухам рэвалюцыі ўвесь гэты абраз шчэз.

Першымі месяцамі керанішчыны ўправа яшчэ час ад часу прысылала людзей на начлег, але былі гэта ўжо цывільныя людзі.

Аднойчы ў гэтым часе я быў сьветкам гэткае сцэны:

Адзін з пакояў займаў нейкі мужчына. Быў ён хваравлівым крыху і пераважна ляжаў у ложку. Аднойчы ён папрасіў, каб маці мая прыгатавала яму чаю. Калі мама падала яму чай і толькі перайшла у другі пакой, дзе я стаяў, і не зачыніла яшчэ дзьвярэй, дык ён азваўся да мамы:

—Иустина Андреевна, кто вы будете?

— Мы рускія, — адказала маці.

— Нет, — запярэчыў ён, — не русские, вы белоруссы.

— А хто яго ведае, — адказала на гэта маці, мы рускае веры...

І гутарка яшчэ якісьці час трывала.

Сцэна гэтая засталася ў мяне ў памяці аж да сягоньня.

Тады я першы раз пачуў, што мы — Беларусы, а гэтым і я — Беларус.

Хутка пасьля гэтага ўсё зьмінячылася ў нашым доме. У наш дом хлынула кватэраваць беларуская моладзь. Былі гэта пераважна рознага веку хлапцы й дзяўчаты з хутароў. За ўтрыманьне плацілі яны харчамі. Хоць была гэта беларуская моладзь, я ня памятаю, каб хто-небудзь зь іх кіраваўся беларускаю матывацыяй. Я ніколі ня бачыў беларускага падручніка ў іх.

Увосень 1919 г. выехалі мы, як думалі тады, на кароткі толькі час у Вільню. Здарылася гэта пасьля таго, як усё, што магло быць выменяным, было выменена на хлеб. У гэтым часе польскія легіёны акупавалі гэтую частку нашае тэрыторыі, і адпаведныя акупацыйныя ўлады выставілі свайго роду пропуск на пераезд. У гэтым пропуску гаварылася, што мы беларускае нацыянальнасьці. Праўда, чытаў я гэты дакумэнт колькі гадоў пазьней, калі ўмеў ужо чытаць папольску.

У Польшчы пражыў я да часу выбуху Другое сусьветнае вайны. Пасьля жыў у Нямеччыне, у Аўстрыі, а ў 1953 г. прыбыў, ужо са сваёю сям'ёю, у Злучаныя Штаты. Ведама, гэта ня было плянаванае вандраваньне, яно барджджэй было вынікам шалёнасьці чалавека, які трымаў тады ўладу ў асяродзьдзі заходня-эўрапейскае цывілізацыі. Усюды, дзе-колечы я жыў, зь якою-колечы культураю ні спатыкаўся, якое-колечы меў я грамадзянства, адно асталася і астаецца праўдаю — я заўсёды быў Беларусам.

***

Тыя з нас, што займаюцца якою-небудзь выдавецкаю пэрыядычнаю працаю, ведаюць, якою цяжкою часамі гэтая праца можа быць.

Выдаючы часапіс „Сьветач Хрыстовае Навукі" на працягу даўжэйшага часу, як дома (1930-39 г. г.), гэтак і на Амэрыканскім кантынэньце, я часта адчуваў цяжар, бо, дзякуючы спэцыфічным абставінам, пераважна аднаму трэба было быць і рэдактарам, і карэктарам, і адміністратарам, і ўсім іншым. Цяжкасьць гэтая асабліва вяжацца з фактам пэрыядычнасьці публікацыі. Пасьля ўсіх цяжкасьцяў, пераможаных над выданьнем бягучага нумару, рэдактар слушна чакае заслужанага адпачынку. Але не пасьпее ён разаслаць апошні нумар, як бачыць, надыходзіць ізноў бязьлітасны тэрмін. Трэба ізноў як найхутчэй пачынаць працу над выданьнем наступнага нумару, калі хочаш, каб нумар быў у руках чытача на прырэчаны яму тэрмін.

Нешта падобнае здарылася са мною ў другой палове 1966 году. Трэба было сьпяшацца, каб напоўніць зьместам чарговы нумар часапісу. А пры навале іншае працы, я чуўся змучаны. Да гэтага даходзіла яшчэ і тое (аб чым ведае шмат хто з нас), што немагчыма было што-небудзь выкрасіць зь сябе. Ну, проста ня пісалася і ўсё.

Каб памагчы самому сабе, прыйшло мне на думку, выдрукаваць у часапісе „Абарону Сакратаса", друкуючы ў некалькіх наступных нумарох.

Працуючы над першым дыялёгам, я спасьцярог больш і больш выразна, што ляпей разумею Плятона, ягоныя мэты, бачу выразна людзей, іхныя імкненьні, змаганьне староннаў за пагляд, змаганьне паміж дабром і злом. Гэта мяне заахвоціла і падбадзёрыла.

Пераклаўшы „Абарону Сакратаса", я сустрэўся з тэкстам дыялёгу п. заг. „Крытон". Ён выдаўся мне вельмі беларускім, бо ў ім закраналіся ўсе тыя аспэкты, якія напатыкаюць у сваім жыцьці ўсе дочкі і сыны беларускага народу. Тэхнічна, у параўнаньні з „Абаронаю Сакратаса" тэкст „Крытона" выдаўся мне невялічкім. Пасьля нейкага часу ён быў перакладзены.

Цяперака перада мною выступаў самы, як мне здавалася, найбольшы і найлепшы дыялёг з усіх ведамых мне дыялёгаў — гэта „Файдон". Калі-б я яго пераклаў, думаў я, атрымалася-б дзіўная і вялікая цэласьць у форме трох дыялёгаў.

Па даўжэйшым часе, надыйшоў дзень, калі я трымаў у руках перакладзены і нанава перапісаны тэкст. Цяперака я меў ужо тры дыялёгі Вялікага Плятона.

Аставалася яшчэ адна рэч — трэба стварыць уступнае слова да выданьня. Зноў пачалася праца вывучаньня прадмету. Пасьля паўтара году працы — і, трэба сказаць, раднасае працы для мяне — прыйшла да быцьця кніга з трыма дыялёгамі Плятона.

Стрымаўшы дыханьне, чакаў я на рэакцыю чытача.

Першы водгук надышоў ад сп. С. Жамойды з Пасэйку (Злучаныя Штаты). Сярод іншага, ён пісаў: „Шчыра дзякую за прысланую кніжку ,Плятон — Выбраныя Дыялёгі'... Вы зрабілі вялікую працу, выдаўшы Плятона ў беларускай мове. Беларускае грамадзтва павінна быць Вам удзячнае".

Мала словаў, але шмат сказана.

***

Мая веда старажытнае грэцкае мовы выводзіцца з Тэалягічнае Школы, якая на пераломе дваццатых і трыццатых гадоў знаходзілася ў Клярысаве пад Варшаваю.

Мамэнту гэтага я не забыў да сягоньняшняга дня.

Аднойчы адчыніліся дзьверы і ў нашу клясу ўвайшоў чалавек. Чалавек прадставіўся нам як Ігнатовіч і сказаў, што ён будзе вучыць нас грэцкае мовы. Пасьля гэтага ён даў кажнаму з нас экзэмпляр Новага Запавету ў грэцкай мове. Чаму? Я ня ведаю, але я ўсьцешыўся, здаецца, магчымасьцю пазнаньня нечага зусім новага. Перада мною ўзьнікае візія: быццам знаходжуся я ў нейкім цьмяным пакоі з вокнамі, завешанымі нейкімі сутоннымі фіранкамі, якія маюць быць разгорнутыя, і я ўжо бачу праз рашчыненыя вокны шырокую панараму: навакол усё заліта сонечным сьвятлом, відна зелень, прыгожыя хварбы суквецьця, летнія воблакі і чысты павеў. І я радуюся. — Дзіўны гэта быў вобраз. І радасьць. Чаму? Нашто? — Ня ведаю. Пасьля пяцідзесяці гадоў сягоньня я ўсё яшчэ маю перад сабою гэты вобраз!

Пачаткі расейскае мовы я здабыў яшчэ ў Слуцку, адведваючы манастырскую школу на Трайчанах, а пазьней два гады хадзіў у прыходскую школу на Юр'еўскай вуліцы. Польскую мову здабыў я ў часе фармальнае адукацыі, якая дазваляла мне займаць пазыцыю пастара ў Варшаве ў адной зь дзьвюх кангрэгацыяў ды становішча сакратара гадавое канфэрэнцыі ў Польскай Царкве Мэтадыстых. Нямецкую мову пачаў прысвойваць у сярэдняй школе як прадмет, а пазьней, у часе вайны, у Нямеччыне і Аўстрыі на працягу дванаццацёх гадоў. З пачаткамі ангельскае мовы сустрэўся ў Тэалягічнай Школе ў Клярысаве, а пазьней адзін год наведваў ведамую Вышэйшую Школу Ангельскае Мовы ў Варшаве на Пляцы Збавіцеля, якая, наколькі мне ведама, яшчэ і сягоньня там існуе. Украінскі тэкст я чытаю свабодна, гэтак як і чэскі. Пачаткі лаціны таксама выводзяцца зь сярэдняе

Заканчэньне на 6-й б.)

# ЗЯРНЯТЫ

**(Матар'ялы да слоўніка выказваньняў, крылатых словаў і афарызмаў пра Беларусь. (Пачатак у № 325)**

Хоць зернейкі засохлымі былі,
Усё-ж такі жыцьцёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясьнянай збожжа на ральлі.

**Максім Багдановіч, 1911 г.**

За родну краіну, звычай і мову,
За гонар грудзьдзю ставайце!

(Карусь Каганец, 1893)

***

Усе этнаграфічныя, філялягічныя, а таксама — і асабліва — гістарычныя працы Беларусаў перш-наперш яшчэ лішні раз пацьвярджаюць праўдзівасьць пагаворкі: „Па што пойдзеш, тое й знойдзеш". ...Блізу ў кожным напісаным імі радку рэзка выступае скрайняя тэндэнцыйнасьць... profession de foi беларускіх нацыяналістаў... Яны глыбака перакананыя ў існаваньні асобнае беларускае народнасьці. (Г-ч, „Северный Вестник", СПб, 1897)

***

**Гэй, родныя песьні! Вы ў суме і ў горы,**
Ці ночка пануе, ці сівер дзьме зімны, —
Для роднай зямелькі вы — сьветлыя зоры,
Для роднага краю вы — райскія гімны!

(Янка Купала, 1906)

***

Я сам рос сярод народу і ведаю, што гэты просты сельска-гаспадарскі народ Беларусі мае таксама свае ідэалы. Ягоны ідэал: „зямля Божая", але й народ Божы; затым ён уважае, што гэтая Божая зямля павінна належаць свайму Божаму народу, г. зн. ,што патрэбы дадзенае мясцовасьці, патрэбы дадзенае нацыянальнасьці павінны быць задаволеныя згодна зь ідэаламі гэтае нацыянальнасьці... Гэтае пачуцьцё неадлучнасьці гэтак глыбака прасякла ў душу жыхарства Паўночна-Заходняга Краю (г. зн. Беларусі — Я. З.), што яно заве гэтую зямлю сваёй зямлёй, а прынцып собскасьці гэтак далёка яму ўласьцівы, што, уласна кажучы, яно навет уважае, што ўся тэрыторыя павінна належаць вылучна жыхарству, якое яе займае. (кн. І. Друцкі-Любецкі ў Дзяржаўнай Думе Расеі, 1906)

***

Нам, праваслаўным, кажуць, што мы — Рускія, значыць людзі іншыя ад каталікоў; кажуць, што каталікі — гэта Ляхі. А па-праўдзе, то гэта адно брахня. Каталікі — гэта такія самыя людзі, як і праваслаўныя: яны гавораць па-нашаму й жывуць таксама цяжка, як і мы, праваслаўныя. Мы ўсе — браты адной крыві і з адной зямлі беларускай. Мы ня Рускія і не Палякі, а Беларусы, і кожны гэта павінен памятаць. (Паўлюк Бусел, „Наша Ніва", 1907)

***

Кінь сваркі і звадкі, аднэй дзеці маткі,
Мы злучаны мовай аднэй.

(Янка Купала, „Наша Ніва", 1908)

***

**І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны,**
**Хоць пад права твае падрываецца шмат хто, як крот, —**
**Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына:**
**Зразумеў і успомніў цябе твой мільённы народ.**

(Янка Купала, 1908)

***

Эманцыпацыя Беларуса, як чалавека й грамадзяніна, непарыўна зьвязана з эманцыпацыяй беларускае нацыянальнасьці. Гэтая думка легла ў аснову ўсяго беларускага руху. (Антон Навіна (Луцкевіч), 1910)

***

Дзіўна і несправядліва зьвініць гэта наша бесьперапыннае: „край наш бедны, зямлі мала!" Мне здаецца, што ня край наш бедны, а толькі мы яго абяднілі ды наша мачыха-доля, што заклеймавала нас нязмытым кляймом спрадвечнага падданства й паніжэньня. (Янка Купала, 1910)

***

Ёсьць цэлы шэраг нацыянальнасьцяў, як прыкладам, Беларусы, нацыянальная сьведамасьць якіх ужо прачнулася і якія, наўсуперак таму, жадаеце вы гэтага ці не, пойдуць у кірунку разьвіцьця нацыянальнае сьведамасьці. (Павел Мілюкоў у Дзяржаўнай Думе Расеі, 1910)

***

Беларусы далі Паляком і іхнага найвялікшага паэта, і іхнага найвялікшага гэроя: і Міцкевіч, і Касьцюшка з паходжаньня Беларусы...

Гэтак было ў мінуўшчыне, ёсьць, значыцца, пэўныя асновы прыпушчаць, што і ў будучыні Беларусы й для сябе вылучаць зь нетраў сваіх гэткіх-жа вялікіх людзей: не бяздарная гэтая прырода, ня зьгінуў яшчэ гэты край... (Аляксей Сапуноў у Дзяржаўнай Думе Расеі, 1910)

***

Дык шануй, Беларус, сваю мову —
Гэта скарб нам на вечныя годы;
За пашану радзімаму слову
Ушануюць нас брацьце-народы!

(Алесь Гарун, 1910)

***

Я цьвёрда перакананы, што нацыя, як украінская, гэтак і беларуская вылучыць належныя культурныя сілы, якія вытварацца пад уплывам земскае дзейнасьці і будуць праводзіць свае інтарэсы. (Аляксандар Бабянскі ў Дзяржаўнай Думе Расеі, 1910)

***

**Просьба да Чытача:** Калі хто мае нейкае цікавае выказваньне, крылатыя словы ці афарызм пра Беларусь, калі ласка, прышлеце яго ў рэдакцыю газэты, падаўшы дакладна ў мове арыгіналу тэкст і ўсе бібліяграфічныя дадзеныя (назоў публікацыі, год і месца выданьня, нумар бачынкі). З падзякаю — **Янка Запруднік, укладальнік.**

# З ЖЫЦЬЦЯ У ЧЫКАГА

## 25-ГОДЗЬДЗЕ ЎДЗЕЛУ Ў ВЫСТАЎЦЫ

Летась мінула 25 гадоў як беларускія арганізацыі Чыкага бяруць рэгулярны ўдзел у Міжнароднай Выстаўцы ў Чыкага, якая ладзіцца штагоду 20-21-га кастрычніка. На



**Мэр гор. Чыкага Гаральд Ўошынгтан перадае сп. Ніку Жызьнеўскаму пасьветчаньне аб 25-гадовым удзеле Беларусаў у Міжнароднай Выстаўцы.**

самым пачатку, гэта значыць у 1959 г., ніхто ня думаў, што гэтая імпрэза будзе рэгулярна праходзіць з году на год ды цешыцца папулярнасьцяй сярод жыхароў Чыкага.

мі на іх беларускімі народнымі касьцюмамі. Выстаўка была таксама добрай нагодай рэклямаваць ды прадаваць беларускія спартовыя кашулі, атрыманыя ад арганізацыі беларуска-амэрыканскае моладзі зь Нью Ёрку.

Атракцыяй на выстаўцы быў куток беларускай філятэлістыкі, старанна падрыхтаваны сп. Багданом Паўкам. Між іншага, гэта ўжо трэйці раз як сп. Паўка экспанаваў беларускія паштовыя маркі. Дагэтага, у сакавіку летась, ён браў удзел у беларускай выстаўцы ў Цэнтры імя Дэйлі ды крыху пазьней на выстаўцы ў будынку польскіх вэтэранаў, побач з польскім, нямецкім і лятувіскім стэндамі ды быў узнагароджаны сярэбранай істужкай.

Звычаем папярэдніх гадоў сп-ня Каця Кагітсу дэманстравала на леташняй выстаўцы тэхніку тканьня, а славутая папрадуха сп-ня Тарэса Тарасэвіч расказвала наведвальнікам аб лёнагадоўлі, апрацоўваньні лёну ды паказвала тэхніку прадзеньня нітак на калаўротку. Як заўсёды, каля майстрыхаў таўпілася публіка, засыпала іх рознымі пытаньнямі тэхнічнага характару.




**Цэнтральная частка стоішча**

Ініцыятарамі й пачынальнікамі ў ладжаньні беларускага стоішча й кухні была Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў штаце Іліной, а таксама Згуртаваньне Беларусаў у штаце Іліной. Пасьля, у

Між іншага, сп-ня Тарасэвіч была запрошаная прадэманстраваць на сцэне выстаўкі сваё мастацтва прадзеньня ды расказаць пра апрацоўваньне лёну. Ейная дэманстрацыя была папярэджаная кароткай



**Майстрыхі Каця і Тарэса**

1973 г., гэтую справу пераняў новаствораны Беларускі Каардынацыйны Камітэт гор. Чыкага (БКК), у склад якога ўвайшлі дзьве вышэй згаданыя арганізацыі ды далучылася Беларуская Нацыянальная Рада гор. Чыкага.

Рыхтаваньне кухні на выстаўцы ў пазьнейшым часе сталася справай сястрыцтва пры Беларускай Праваслаўнай царкве Сьв. Юр'я ў Чыкага, якое за часамі старшынства сп. Васіля Пунтуса ў БКК фінансава памагала культурнаму стэнду.

Летась Беларуская Нацыянальная Рада ў Чыкага не пачувалася да абавязку даць частку прыбыткаў з кухні на падтрыманьне культурнага стэнду, а арганізавала сваё культурнае стоішча разам з кухняй. Гэты факт толькі падкрэсьліў, што ў нашых людзей ёсьць патэнцыял на ўсякі пачын пры наяўнасьці добрых натугаў.

Культурны стэнд, ладажны летась БКК бяз удзелу Бел. Нац. Рады, адзначаўся жанравай разнастайнасьцяй. Экспанаты былі папоўненыя новымі вышыванкамі, ручнікамі, дзяружкамі, лялькамі ды калекцыяй картак з прадстаўленьіінфармацыйнай даведкай пра Беларусь, якую дала сп-ня Вера Рамук. Таго-ж самага дня, 20-га кастрычніка, мэр гораду Гаральд Ўошынгтан раздаў пасьветчаньні прызнаньня 15-ём этнічным групам за іхны 25-гадовы ўдзел у Міжнароднай Выстаўцы. Ад БКК пасьветчаньне прыняў сп. Нік Жызьнеўскі, кіраўнік беларускага стоішча.

У часе выстаўкі адбываўся бязупынны паказ слайдаў зь ілюстрацыямі розных этнічных стэндаў на працягу 25-гадовага пэрыяду. Прыемна было бачыць здымкі й нашых стэндаў зь іхнымі ўдзельнікамі.

Трэба зазначыць, што горад быў выдаў лістоўку з рэцэптамі этнічных страваў; была таксама выдадзеная лістоўка з рэцэптамі беларускага халадніка й караваю, перададзеныя гораду ад БКК.

Наапошку трэба адцеміць, што леташні стэнд БКК быў добра афармлены й карыстаўся папулярнасьцяй сярод наведвальнікаў. Тут трэба выказаць падзяку ўсім тым, хто браў удзел у рыхтаваньні нашага стоішча, інфармаваньні наведвальнікаў ды хто пазычаў экспанаты.

**Він**

## КАЛЯДНЫ ФЭСТЫВАЛЬ



**Дэкараваньне беларускае ялінкі ў Музэі Навукі й Індустрыі**

Калядная праграма фэстывалю ў Музэі Навукі й Індустрыі пачалася летась 17-га лістапада і трывала да 7-га студзеня сёлета. У праграме ўзяло ўдзел сорак этнічных групаў із сваймі адмыслова ўдэкараванымі ялінкамі й каляднымі выступленьнямі на сцэне музэю.

Тут трэба выказаць падзяку ўсім удзельнікам пастаноўкі: сп-ні Веры Рамук, сп. Н. Жызьнеўскаму (які выконваў ролю бацькі), сп-ні К. Кагайтсу (ролю маці), сп-ні П. Тамас (бабулі), сп-ні Т. Тарасэвіч (падарожніцы), дзецям: М. Ваксэлісу, Янку й Мані Кэрр, Аньне Тафанэлі; калядоўшчыкам: Лізе й Тані Кучура, Люсі Кулагін, Любе, Міхасю й Тані Мішчанчук, Наталцы Салерна, Паўлу Сянькевічу й Юрку Жызьнеўскаму; дзяўчатам з групы калядоўшчыкаў падзяка належыцца за паказ варажбы ў калядны вечар.



**Сцэнка з пастаноўкі „Каляды на Беларусі"**

Нашая ялінка была нарыхтаваная 14-га лістапада. Новыя арыгінальныя арнамэнты папоўнілі папярэднія, прыдаючы ялінцы сьвежы каларыт і прывабнасьць, што прыцягнула ўвагу афіцыйнага фатографа музэю. Здымак нашае ялінкі быў зьмешчаны ў газэце „Чыкага Трыбюн" (30. XI. 84).

Дзякуючы карпатлівым стараньнем і натугам сп-ні Веры Рамук, удалося ўпяршыню даць сцэнічную пастаноўку „Каляды на Беларусі" на эстрадзе музэю летась 16-га сьнежня. Тэкст паказу-скечу ў ангельскай мове напісала сп-ня Вера Рамук. Быў прадстаўлены калядны вечар на Беларусі: рыхтаваньне куцьці, прыбіраньне ялінкі, прыход падарожніцы, якая заблудзілася, традыцыйная калядная вячэра, прыбыцьцё калядоўшчыкаў з зоркай і варажба дзяўчат. У часе паказу перадаваліся беларускія калядкі з гукавое сыстэмы. У пастаноўцы ўзяло ўдзел дваццаць асобаў, выступаючы ў беларускіх нацыянальных касьцюмах.

Перад паказам сп. Ролянд Талівэр, які вёў апавяданьне, даў інфармацыйную даведку пра Беларусь, паясьніў апрычоныя беларускія калядныя традыцыі, адлюстраваныя ў скечы.

Трэба адзначыць, што, незважаючы на кароткі час на пробы, усе ўдзельнікі пастаноўкі добра выканалі свае ролі. Заля была перапоўнена гледачамі, і, паводля выказваньняў публікі, паказ быў на высокім узроўні.

Між іншага, Калюмбійскі Каледж мастацтваў і кінэматаграфіі зьняў паказ на відэайстужку, а таксама ўзяў інтэрвію ў сп-ні Рамук.

Радыястанцыя Даблью-Сы-Эль-Ар перадала 23-га сьнежня калядкі розных народаў, у тым ліку й беларускія, запісаныя на істужку ў 1982 годзе.

Словы падзякі трэба выказаць таксама за нарыхтаваньне новых дэкарацыяў і ўдэкараваньне ялінкі сп-ству Люні, Антосю й Гені Беленісам, сп-ні Еўдакіі Жызьнеўскай і Ніку Жызьнеўскаму, а таксама ўсім тым, хто падтрымаў фінансава ды пазычыў рэчы на ўдэкараваньне сцэны для пастаноўкі.

Уся калядная праграма была ладжаная зь ініцыятывы Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага.

**Вітаўт Рамук**

## ВОБРАЗ ГЭБРЭЯ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Пад гэткім загалоўкам выйшла летась у ньюёркаўскім выдавецтве „Ктав" кніжка двух аўтараў пад заг. „Вобраз Гэбрэя ў савецкай літаратуры". Першая частка кнігі прысьвечаная расейскай літаратуры, другая — беларускай. Разглядаюцца творы пасьлясталінскага пэрыяду. Пра вобраз Гэбрэя ў расейскай літаратуры напісаў Якуб Блюм. Аўтарам-жа другое часткі — якая мае падзагаловак „Гэбрэйскія тэмы й пэрсанажы ў беларускіх тэкстах" (чамусьці — „тэкстах", а ня „літаратуры"!) — Вера Рыч, ведамая паэтэса й перакладчыца з славянскіх моваў. Зь 276 бачынаў кнігі на беларускую літаратуру прыпадаюць 173 бачынкі. Дасьледваньне Веры Рыч напісанае на багатым літаратурным матар'яле й грунтоўна анатаванае.

## „БЕЛАРУСКАЯ ПАПКА" НА ТЭЛЕЭКРАНЕ

У сыботу 16 лютага 1985 г. на амэрыканскім тэлябачаньні тэлекампанія Сы-бі-эс (адна з трох найбольшых) паказала двугадзінны фільм „Беларуская папка" (гл. „Б-с" № 323: „Фільмуецца ‚Беларускі сакрэт' "). Паказ фільму быў папярэджаны й суправаджаўся даволі шырокай камэрцыйнай рэклямай і артыкуламі ў друку. Газэтная пісаніна, як і ў выпадку з кніжкай Лофтуса „Беларускі сакрэт", на якой фільм базаваўся, адзначалася бяскрытычным пераказам абвінавачаньняў з Лофтусавае кнігі пра, быццам-бы, выключную варожасьць Беларусаў да гэбрэйскага жыхарства ў часе гітлераўскае акупацыі Беларусі ды пра ўвоз сакрэтнымі службамі ЗША беларускіх „ваенных злачынцаў" у Амэрыку.

У міжчасе, як пра гэта было падана ў „Беларусе" № 324, выйшла кніга Лофтусавага начальніка ў Аддзеле Спэцыяльных Расьсьледваньняў Алнэа Раена пад заг. „Ціхія суседзі" — таксама пра „ваенных злачынцаў" з Усх. Эўропы, якія апынуліся ў ЗША. У Нью Ёрку 11-га сьнежня летась, у памешканьні амэрыканска-гэбрэйскай арганізацыі Лігі Супраць Паклёпаў адбылася прэсканфэрэнцыя, на якой сп. А. Раен гаварыў пра сваю кніжку. Карэспандэнт „Беларуса" задаў яму гэткае пытаньне:

„Сп. Раен, Джон Лофтус у сваёй кнізе ‚Беларускі Сакрэт', што выйшла летась (а Лофтус, як Вы ведаеце, працаваў на працягу двух гадоў у Вашым офісе; Раян: ‚Я ведаю пра гэта'.), цьвердзіць, што ён знайшоў сьляды прынамся трохсот ваенных злачынцаў зь Беларусі. У Вашай-жа кнізе Вы ня згадваеце ніводнага прозьвішча з тых, якія назваў Лофтус (Раян: ‚Правільна'.). Як трэба разумець тое, што Вы прамаўчалі гэтыя прозьвішчы?"

На гэта сп. Алэн Раен адказаў:

„Маё прамаўчаньне (прозьвішчаў) тлумачыцца тым, што я прыйшоў да высновы, што мала хто з тых, каго ён (Лофтус) назваў, або й наагул хто-небудзь зь іх, у запраўднасьці ваенны злачынец. Я думаю, што ягоная кніжка недакладная і ня бачу прычыны аспрэчваць кожную недакладна напісаную кніжку пра нацыстаўскіх ваенных злачынцаў у нашай краіне. Гэта магчыма, што Дзяржаўны Дэпартамант прывозіў Беларусаў, але нашыя вельмі грунтоўныя расьсьледваньні, уключна з тымі, якія былі праведзеныя, калі Джон (Лофтус) адыйшоў — пасьля таго, як я яму сказаў пакінуць, бо ён, на маю думку, не падыходзіў да справы грунтоўным парадкам — нашыя расьсьледваньні не паказалі блізу ніякага пацьверджаньня, што гэтыя асобы на самой рэчы бралі ўдзел у перасьледваньні нявінных людзей. Яны былі паштовымі працаўнікамі, дарожнымі камісарамі або школьнымі функцыянерамі, але, зь вельмі нявялікімі выняткамі, яны ня былі нацыстаўскімі ваеннымі злачынцамі".

Калі карэспандэнт „Беларуса" паінфармаваў Раена, што кінакарпарацыя Юнівэрсал Студ'ёс рыхтуе фільм паводля Лофтусавае кніжкі, дык Раен толькі кінуў рэпліку „Што я магу сказаць на гэта?" І ў залі прэсканфэрэнцыі пракаціўся сьмех . . .

Фільм „Беларуская папка" (у здыманьні якога Лофтус быў „тэхнічным дараднікам"?!) запраўды сьмеху варты. У фільме адбываюцца чатыры забойствы. Першыя тры ахвяры маюць быць былыя ваенныя злачынцы зь Беларусі. Цікава, што адзін з гэтых „калябарантаў" і беларускіх нацыяналістаў, апынуўшыся ў Нью Ёрку, узяўся чамусьці выдаваць газэту . . . „Россия сегодня".

Хто-ж праводзіць тры таямнічыя забойствы ў фільме?.. Для шмат каго з тэлегледачоў, у тым ліку й для карэспандэнта савецкага прэсавага агенцтва ТАСС, справа гэтая засталася нявыясьненай. Выдаваная ў Менску „Сельская газета" ў нумары за 21 лютага сёлета зьмясьціла тасаўскае паведамленьне зь Нью Ёрку пад заг. „ ‚Беларускае дасье' на амэрыканскіх тэлеэкранах". Вось як пераказаны там зьмест фільму „Беларуская папка":

„. . . У Нью Ёрку нашых дзён адно за адным адбываюцца колькі таямнічых забойстваў. Інспэктар гарадзкое паліцыі, які расьсьледуе гэтыя злачынствы, устанаўляе, што ў іх замяшаныя (устанавливает причастность к ним) выхадцы зь Беларусі, якія апынуліся па Другой

(Заканчэньне на 6-й б.)

